*Алесь КРУТКІН*

# ХАЙ ПРЫСНІЦЦА ДОБРАЙ ПАННЕ ЯБЛЫЧНЫ ПІРОГ



***Алесь Круткін нарадзіўся 7 снежня 1989 года ў вёсцы Адаменкі Быхаўскага раёна. «Там, дарэчы, было і паселішча чалавека жалезнага веку кіеўскай археалагічнай культуры». Жыве ў вёсцы Захарнічы Полацкага раёна. «Там, дзе ў XIX стагоддзі жыў мастак Іван Хруцкі». Вучыцца на гісторыка, цікавіцца этнаграфіяй Падзвіння, захапляецца кінематографам.***

* * *

Вецер на маім «майдане» —
Смецце за парог,
Хай прысніцца добрай панне
Яблычны пірог.
Будзе спаць і сніць вядзьмарка
Журавіны, мёд,
Закружляюць знічкі шпарка —
Думак карагод.
Прымурожыць зноў ціхенька
Вочкі-прамяні,
Замуркоча песню елка
Ёй пра карані.
Як сняжынкі свае вежы
Адбудуюць, і праз лёд
Сустракае не па трэшу
Чараўніцу снежань-кот.
Вецер дзьмуць не перастане —
Ачышчэнне-матылёк,
Хай прысніцца добрай панне
Яблычны пірог.

* * *

Не хварэйце, сінія пялёсткі,
Матылькі-агеньчыкі!
Ў іх святло крывіцкай вёскі,
Ад ракі пасвенчаны.
На вячэру светам шэрым
Там злятаюцца ваўкі,
На нябесную кватэру
Каб пазбавіць вас смугі.
На світанку у блакіце

З падарожжаў-магістралей
Прачынаюцца... Глядзіце
Праз агні і далей!

* * *

У яе ад восені —
Жоўтыя лясы,
Ад зімовай просіні —
Промні абразы.
І на гэтым вось памежжы —
Скасаванне візаў,
Мытнямі ў снежні
Вашыя эскізы.
Дык трымайце за далоні
На вакзале ў пастарунку,
У застуджаным вагоне
Станьце паратункам.

* * *

Вы — мой мёд,
Вы — мая валяр'янка,
Мы паедзем на санках
На казачны сход:
Анёла-вядзьмарка
І пчола-кот.

**ВІЛЬНЯ**

Між дэфензівай і саўгумай
Чэргі падманаў і прымусаў
Чужынскім ботам стала гумай
Сталіца княства беларусаў.

* * *

Не навязвацца
І не надакучваць,
І не трэба быць асам,
Сыходзячы гучна.
Нам бы толькі зваліцца
Пялёсткамі вішні
Калі кажуць, што быццам
У палёце залішні.

